

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Улада прызнала наяўнасьць энэргетычных праблемаў. Устаноўлены графік карыстаньня цяплом. Цяпер гарачая вада будзе ў кватэрах толькі частку тыдня. Значна пазьней распачнецца камунальны ацяпляльны сэзон. Нормай будзе лічыцца хатняя тэмпэратура ў межах +15 градусаў.

Прэм'ер Ярмошын зноўку наведаў нашыя мясьціны. У Крычаве і Касьцюковічах выслухаў скаргі цэмэнтнікаў на бядотны стан прамысловага гандлю і дрэнны сацыяльны настрой працоўных. З адгаго боку, людзі стараюцца і даюць шмат прадукцыі. З другога – прадаць яе немагчыма па многіх эканамічных прычынах. Уплыву на гэтыя прычыны, калі гаварыць шчыра, кіраўнік ураду ня мае. Хаця, канешне, даў некалькі абяцаньняў, запэўніў у дапамозе. Каб жа тое чулі вытворцы ўпершыню...

Цяжка сказаць, што адчуваў у душы кіраўнік Бабруйска Ўладзімер Рамаmaking Раманоўскі, якога завуць "чырвоным мэрам", калі непадалёк ад ягонага гораду нядаўна зьявіліся натаўскія вайскоўцы. Іх было мала, каб напасьці на нас, таму яны вырашалі іншую задачу: інспэктавалі вайсковы гарадок у Кісялевічах і палігон "Дружба". Візыт адбыўся па пратаколе да Дамовы аб скарачэньні адпаведных відаў войскаў і ўзбраеньняў.

На абласной канфэрэнцыі "афіцыйных прафсаюзаў" Міхаіл Дражын высока ацаніў намаганьні старшыні абласной фэдэрацыі Анатоля Любчанкі. У прыватнасьці, мясцовы адміністратар адзначыў тое, што "у экстрэмальнай сытуацыі гэты чалавек не пайшоў на мітынгі і страйкі, а рушыў цывілізаваным шляхам, што ўратавала вобласьць ад таго, каб стаць разьменнай картай...". Здаецца, ніхто й не заўважыў двухсэнсовасьці такога камплімэнту менавіта прафсаюзнаму кіраўніку, чыя сьвятая мэта – абарона працоўных, у тым ліку праз такія формы, прынятыя ва ўсім сьвеце, як страйкі і мітынгі. Можна, зразумела, бязь іх. Тады хай бы зьмянілі назоў сваёй арганізацыі.

Здаецца, я ўжо паведамляў пра тое, што ўпраўленьне культуры адпусьціла з пасады дырэктара абласнога тэатру Віктара Куржалава, які прасіўся некалькі месяцаў. Пасаду заняў былы бэпэсэмаўскі апаратчык Андрэй Навікаў. Пры прызначэньні яго на пасаду акторам забыліся паведаміць пра тое, чым жа канкрэтова займаўся ў сваім абкаме гэты малады таварыш. І вось яны высьветлілі самі: таварыш курыраваў пытаньні стварэньня і дзейнасьці "патрыятычных арганізацыяў". Ня жартачкі...

Хворы па ўсіх парамэтрах грамадзкі транспарт патрабуе грашовай падтрымкі, якую могуць забясьпечыць яму толькі пасажыры. Калі б праязны квіток каштаваў як меней 100 руб., лічаць транспартнікі, яшчэ можна было б зводзіць "запчастка-рамонтавыя" канцы з канцамі. Але ўстанаўліваць такі кошт, значыць рызыкаваць зусім астацца бяз грошай.

Крыху больш за год у гаспадарках вобласьці зьмянілася 150 старшыняў (усяго калгасаў у нас 370). Здаецца, новыя людзі таму й прызначаліся, каб выпраўляць справы. Нічога не атрымліваецца, аднак. Тут якраз той выпадак, калі "як вы не садзіцеся"...

З інфармацыі начальніка абласнога ўпраўленьня занятасьці насельніцтва М.Мяцеліцы вядома, што ў вобласьці практычна няма попыту на юрыстаў. Сярод шукальнікаў працы іх ажно 53 чалавекі, а розныя арганізацыі замовілі ўсяго 9 юрыстаў... Паказальны і вельмі трывожны факт. Пра многае сьведчыць ён – тут вам і юрыдычны нігілізм, і непавага да законаў, і нявер'е ў справядлівасьць. Бо толькі тады ў грамадстве няма спадзяваў на патрэбнасьць юрыстаў, калі ў іх ня мае патрэбы сама дзяржава.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## Дапаможам самотным сastarэлым

Магілёўская гарадзкая арганізацыя БСДП НГ праводзіць дабрачынную акцыю падтрымкі састарэлых самотных людзей. Кожны можа прыняць удзел у гэтай акцыі: рэчы можна занесьці ў 304 пакой дома 19 па вул. Касманаўтаў у горадзе Магілёве. Іх чакаюць тут ад 15 да 18 гадзіны штодня. Патэлефанаваць сюды можна ў гэты ж час: 32-65-72.









## Крапівеньская традыцыя: фотарэпартаж

*Гэтыя здымкі спазьніліся ў мінулы нумар газэты, дзе мы падалі два рэпартажы аб сёлетняй патрыятычнай імпрэзе на Крапівеньскім полі пад Воршай з нагоды чарговай гістарычнай гадавіны перамогі беларускга войска Канстанціна Астрожскага над маскоўскімі ваярамі цара Васілія. Напрыканцы дзевяностых гадоў падавалася, што традыцыя адзначэньня выбітнай падзеі ў гісторыі Бацькаўшчыны пад націскам улады, якая гатовая забыцца на ўсё – абы не гнявіць Крэмль, затухае і сыходзіць да лепшых часоў. Аднак сёлета выявілася, што гэта ня так: беларуская моладзь ведае і памятае гісторыю, што ёсьць закладам наступленьня лепшых часоў для росквіту і адраджэньня Бацькаўшчыны.*

*У пацьверджаньне гэтага рэдакцыя вырашыла надрукаваць фотарэпартаж нашых горацкіх карэспандэнтаў*
**Ірыны і Віктара Каральковых.**









